ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Кніга Ноша
№ 18
люты, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Ірына ХАДАРЭНКА:
## «У паэзіі, як і ў музыцы, важная гармонія»

**– Шаноўная Ірына Міхайлаўна, нядаўна выйшла Вашая кніга паэзіі «Свядомаграфія», у якую ўвайшлі вершы і пераклады. Папярэдняя кніга выходзіла 13 гадоў таму (у 1999 годзе). Чым было выклікана такое доўгае «творчае маўчанне»?**

– На гэтае пытанне я адказала ў адным са сваіх вершаў наступным чынам: «Паэтам часам трэба памаўчаць, // Бо нават птушкі не пяюць бясконца…» Насамрэч можна, канешне, засаджваць сябе за стол і, як Дзюма-старэйшы, кожны дзень нешта пісаць. Але такі рэгламент усё ж такі больш прымальны для празаікаў і… навукоўцаў. Мяркую, што менавіта моцная засяроджанасць на даследчай дзейнасці ў мінулы перыяд перашкодзіла больш актыўнаму прысвячэнню часу літаратурнай творчасці.

**– Вы перакладаеце з рускай і польскай моваў. Па якім прынцыпе выбіраеце тэксты для перакладу?**

– Прынцып вельмі просты – вершы павінны мне падабацца, адпавядаць унутранаму ладу маёй душы. Калі адчуваеш нейкае роднаснае сугучча ў творы, тады аўтаматычна ўзбуджаецца цікавасць да таго, як бы ён гучаў па-беларуску. Тут, аднак, трэба сябе стрымліваць, каб не ўносіць зашмат уласнага ў чужы верш. Хоць цалкам абысціся без гэтага немагчыма, так ці інакш перакладчык дадае нешта ад сябе, калі нават няма жорсткай патрэбы ў адаптацыі кантэксту. Таму і кажуць, што надзвычай дакладныя пераклады, без аўтарскага ўнёску, крыху нагадваюць мёртвыя кветкі…



У апошні час у мяне ёсць жаданне ўзяцца за творы Тадэвуша Міціньскага, чалавека надзвычай цікавага і неардынарнага, які таямніча загінуў на тэрыторыі Беларусі. Дарэчы, заўважыўшы, што ў бягучым годзе спаўняецца 140 гадоў са дня нараджэння творцы, я пацікавілася ў калег з Лодзі, ці будзе ў іх гэтая дата неяк адзначацца. Высветлілася, што і ў Польшчы Міціньскі не надта вядомы, не кажучы ўжо пра Беларусь. І фактычна з маёй падачы ў ягоным родным горадзе з мэтай ушанавання памяці пісьменніка нядаўна быў запланаваны шэраг імпрэз пад назвай «Лістапад Міціньскага».

**– У вершы «Пустмадэрнізм» Вы яскрава акрэсліваце рысы (заганы) паэзіі сучасных аўтараў («Іх творы – гумовыя кулі смяротных калібраў – // Лятуць, каб забіць «трох зайцоў»: вобраз, рыфму і сэнс»). А ці ёсць яшчэ сапраўдныя паэты?**

– Мяне вельмі засмучае дамінацыя трэшу ў сучаснай літаратуры. І гэта тычыцца не толькі нашай краіны, гэта агульнасусветная з’ява. На маю думку, чытанне твора не павінна пакідаць такога ўражання, нібы на цябе вылілі вядро з памыямі. Але часам так здараецца. Пагадзіцеся, нават пра радзіму можна напісаць вельмі па-рознаму. Для аднаго яна

*(Працяг на стар. 7)*



**Даведка «Кніганошы»:**

**Ірына Хадарэнка (Ірына Міхайлаўна Шумская) – паэтка, перакладчыца, публіцыст і навукоўца. Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы: «Лабірынты душы» (1996); «Чорная ружа» (1998); «Танцы на шкле» (1999), «Свядомаграфія» (2012). Удзельнічала ў шэрагу міжнародных літаратурных імпрэз і фестываляў. Творы перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, нямецкую мовы. Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску, дзе і жыве зараз.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Адамовіч Алесь. Выбраныя творы. Уклад. і камент. Н. Адамовіч і М. Тычыны, прадм. М. Тычыны. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 608 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

Кнігу выбраных твораў выдатнага беларускага пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўцы, кінасцэнарыста Алеся Адамовіча (1927–1994) склалі аповесці: «Нямко», «Хатынская аповесць», «Vixi», публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, пісьмы. Шэсцьдзесят чацвёрты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Пашкевіч Алесь. Сімъ побѣдиши: раман, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 260 с.**

Раман «Сімъ побѣдиши» – пра ўладу тыранаў і ўладу слова. Расповед вядзецца ў двух часавых зрэзах: у XVI стагоддзі і ў нашым часе. У цэнтры тэксту – тры галоўныя пары персанажаў-двайнікоў: цар Іван Жахлівы (Грозны) – і сучасны дыктатар Іван Мароз; мітрапаліт, які ўзвёў цара на трон, – і прафесар-гісторык, які дапамог свайму былому студэнту выйграць прэзідэнцкія выбары; першадрукар Іван Федаровіч (Фёдараў) – і тэлежурналіст Іван Федарэнкін. А яшчэ – Кацярына Ягелонка, пляменніца караля Жыгімонта, якая не скарылася маскоўскаму цару і стала каралевай Швецыі, – і студэнтка Кацярына…

«Усё знікае, але нічога не змяняецца», – асноўны лейтматыў рамана. А перамагае ў выніку не сіла, а любоў. І – слова.

У кнігу ўвайшлі і выбраныя эсэ аўтара.




**Маракоў Леанід. Непамяркоўныя: апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 184 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 31).**

Непрыдуманыя, амаль дакументальныя, а шмат у чым і аўтабіяграфічныя апавяданні Леаніда Маракова, сабраныя ў кнізе «Непамяркоўныя», па часе ахопліваюць ледзь не ўсё XX стагоддзе. Напісаныя яны свежым, лёгкачытэльным стылем і ў сваёй аснове маюць вострыя, дынамічныя сюжэты. Сюжэты нібы прыдуманыя самой гісторыяй, самім жыццём. Жыццём-палётам над безданню...




**Брусевіч Анатоль. Апошні дзень: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 32).**

Кніга «Апошні дзень» ужо адной сваёй назвай здольная выклікаць змрочныя асацыяцыі. Аднак вершы, якія змешчаны тут, поўняцца не толькі цемрай трывогі, але і святлом надзеі. Яны балансуюць на хісткай мяжы – паміж напаўразбуранай традыцыяй і нечым невядомым. Невядомае заўсёды пужае, фарбуючы светаадчуванне ў чорныя і шэрыя колеры, прымушае бегчы без аглядкі. Традыцыя дазваляе спыніцца, азірнуцца і паслухаць галасы мінулага... «Апошні дзень» – спроба пэўнага падсумавання. З надзеяй, што прыйдзе ДЗЕНЬ НОВЫ.




**Пачкоўская Віялета. Арэхападзенне: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 38 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютны зборнік Віялеты Пачкоўскай – гэта сумныя вершы пра шчаслівае каханне, самотнага бога і грамадскі транспарт. У кнізе вас чакаюць успаміны пра бабуліны перапечкі, крыштальнае паветра і бясклапотную пенсію. Арэхападзенне – гэта кніга пра шчасце, простае, як два пальцы. Для старэйшага школьнага ўзросту.




**Касцюкевіч Мікола. Колеры: паэзія і проза. – Масква: «Русский путь», 2013. – 381 с.**

У збор твораў увайшло практычна ўсё напісанае за дваццаць гадоў Міколам Касцюкевічам. Змесціва кнігі, нібы знарок, падабранае для чытачоў розных густаў: тут і яркія, празрыстыя творы і тэксты дарэшты герметычныя. Аўтар прапануе цэлы веер жанраў: у паэзіі – канвенцыйны верш, лірычную імпрэсію, метафізічнае эсэ, у прозе – псіхалагічную любоўную навэлу, «гатычную» гісторыю, апавяданне-баявік, антыўтопію, містычную паэму ў прозе, а замыкае збор твораў філасафічнымі запісамі. Такім пісьменнік паўстае ўпершыню.




**«Тварам да шыбеніцы»: Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай паэзіі: Анталогія. Аўтар-складальнік – Янушкевіч Язэп. – Ракаў, 2013. – 137 с. + 4 чорн.-бел. укл.**

Зборнік выходзіць да 150-годдзя паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі-Літве і да 175-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага (1838–1864). У выданні пададзена спадчына К. Каліноўскага: «Мужыцкая праўда» (№ 1–7) і тры «Лісты з-пад шыбеніцы». Апошнія («Лісты з-пад шыбеніцы») друкуюцца ў даўнім перакладзе (1980) на ангельскую мову (пераклад Янкі Запрудніка, Томаса Бэрда), а таксама ўпершыню на польскай (пераклад Чэслава Сэнюха, Яна Гушчы) і ўкраінскай (пераклад Ігара Біліньскага, Аляксандра Ірваньца, Наталкі Пазняк) мовах.

Другую частку выдання склала «Паэтычная Каліназўскіяна», у якой сабраныя творы 55 беларускіх аўтараў, прысвечаныя тэме паўстання 1863–1864 гадоў і постаці ягонага кіраўніка Кастуся Каліноўскага, празванага «апошнім каралём Літвы».




**Юрэвіч Лявон. Жанры. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 528 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 21).**

Кніга архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча «Жанры» (21-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») з'яўляецца своеасаблівым працягам яго папярэдніх даследаванняў, прысвечаных эміграцыйнай літаратуры. У новым выданні сабраныя тэксты (як друкаваныя раней у розных перыёдыках, так і непублікаваныя), якія раскрываюць асаблівасці некаторых літаратурных жанраў. Тут прадстаўлены травелогі, біяграфіі, пераклады, гумарыстычна-сатырычныя творы, літаратурная крытыка на эміграцыі – тыя групы твораў, якім раней надавалася мала ўвагі ў даследаваннях. Кніга прапануе чытачам як новыя звесткі і аналіз асобных аспектаў эміграцыйнай літаратуры XX ст., так і матэрыялы да літаратурнага побыту беларусаў у ЗША і Канадзе.




**Літаратурнае прадмесце: зборнік да 10-годдзя суполкі «Літаратурнае прадмесце». Склад. Л. Рублеўская, В. Шніп. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 196 с.**

Зборнік выдадзены да дзесяцігоддзя вядомай суполкі «Літаратурнае прадмесце». Творы, якія ўвайшлі ў яго, адносяцца да розных жанраў і стыляў: чытач знойдзе і авангардысцкія вершы, і класічныя санеты, аповеды з жыцця сучаснай моладзі і філасофскія прыпавесці, сустрэнецца з творцамі-пачаткоўцамі і з тымі, чые імёны добра знаёмыя аматарам беларускай літаратуры.




**Узрост вышыні: Да 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: Артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, лісты і тэлеграмы. Уклад. Гілевіч С. Н. – Мінск: Канфіда, 2012. – 264 с.**

У зборнік, выдадзены з нагоды юбілею – 80-годдзя народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча – увайшлі артыкулы, эсэ, нататкі, вершы, прысвечаныя гэтай падзеі, а таксама віншавальныя лісты і тэлеграмы, якія атрымаў юбіляр.




**Кертэс Імрэ. Страчаны лёс: раман. Пер. з вугорскай мовы Святланы Рогач. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 256 с.**

Раман вугорскага літаратара Імрэ Кертэса «Страчаны лёс» (1975), шмат у чым аўтабіяграфічны, уражвае не так апісаннямі «жахаў» і «пекла канцлагераў», як незвычайнай інтанацыяй аповеду, пазбаўленай пафасу і празмерных эмоцыяў. Галоўны герой кнігі падзіцячы наіўна ўспрымае ўсё, што з ім адбываецца, намагаецца прыстасавацца да варункаў канцлагеру, асвоіцца з дадзеным яму лёсам.




**Баяровіч Зміцер. Шалі: лірычна-побытавая проза. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 92 с. – (Серыя «Час воблы»; выпуск 2).**

Зборнік складаюць лірычна-побытавыя мініяцюры. Аўтар не проста працягвае традыцыі папярэднікаў, але імкнецца і да творчага вынаходніцтва. Кніга разлічаная на чытача, які шукае новых уражанняў і прыгодаў.




**Рублеўскі Сяргей. Святло лускі: кніга для тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам: эсэ, навелы, мініяцюры. – Мінск: Медысонт, 2012. – 160 с.**

Нягледзячы на вынесены ў назву падзагаловак, кніга разлічана не толькі на тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам. Яе з цікавасцю прачытаюць усе, для каго адзінота з'яўляецца не выракам гаротнасці, а вытворнай самадастатковасці, шчаслівым затулкам для роздуму. Чалавек, які абдзелены на радасць рыбнай лоўлі, прачытаўшы гэтую кнігу, зразумее: шчаслівы занятак дае магчымасць вызначыць дакладную «прапіску» душы на створаным Ягамосцю Дрэве Жыцця, адчуць яе месцейка, не раўнуючы як лісцінка адчувае кропачку свайго прыляплення на хісткай, разгайданай ветрам галіне.




**Лявон Савёнак. Творы. Уклад. Ц. Чарнякевіча, Л. Юрэвіча; прадм. Л. Юрэвіча і В. Кіпеля; камент. Ц. Чарнякевіча; пад рэд. Ц. Чарнякевіча. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 352 с. – (Галасы Айчыны).**

У кнігу твораў Лявона Савёнка (1897–1974) увайшлі ўсе выяўленыя на сёння яго аўтарскія тэксты: фельетоны, нарысы, артыкулы, аповесць «Запіскі эмігранта» («Дзённік Ів. Ів. Чужанінава»). У дадатку змешчаныя мемуары жонкі «караля фельетона» – Апалоніі Савёнак (1901–1982), дзяячкі беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя.




**Крашэўскі Юзаф. Веска: ідылія; пер. з пол. мовы Міколы Папекі. – Брэст: Альтэрнатива, 2012. – 36 с.**

Паэма «Вёска» Ю.І. Крашэўскага – гэта значны твор самага пладавітага пісьменніка гэтай зямлі (больш за 600 тамоў раманаў, паэмаў, іншых тэкстаў за што аўтар унесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса). Паэма выйшла пасля смерці аўтара, таму засталася ў цені знакавых празаічных твораў. Твор вялікага рамантыка знітаваны шматлікімі повязямі з Берасцейшчынай, з Пружаншчынай, дзе жыве перакладчык паэмы Мікола Папека. Гэта першы пераклад твора на беларускую мову.

# Паэзія для неабыякавых



14 лютага, у Дзень усіх закаханых і ў дзень нараджэння Міхася Стральцова, адбылося ўрачыстае адкрыццё Другога міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце». Арганізатары фестывалю – Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, а таксама Шведскі саюз пісьменнікаў. Канферэнц-зала Інстытута імя Гётэ была перапоўненая – імпрэзу наведалі не меней за дзвесце чалавек.

### *Паэзія – вызваленне ад слоў*

Вядоўца імпрэзы, паэт, перакладчык, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч адкрыў вечарыну, падзякаваўшы Дырэктару Інстытута імя Гётэ ў Мінску спадару Франку Бауману за спрыянне ў арганізацыі фэсту, і адзначыў:

– Хочацца верыць, што фестываль стане штогадовым, будзе праводзіцца пастаянна, і што найлепшыя беларускія аўтары незалежна ад узросту і эстэтычных прыхільнасцяў будуць збірацца і слухаць адно аднога, што ўсё большая колькасць беларусаў з розных гарадоў будуць наведваць паэтычныя імпрэзы. Спадзяюся, міжнародная геаграфія нашага фэсту будзе пашырацца. Здорава, што сёлета да нас далучыліся госці са Швецыі, з Нямеччыны, з Эстоніі. Думаю, тут сабраліся людзі, якім неабыякавая паэзія.

Напрыканцы свайго прывітальнага слова Андрэй агучыў фрагмент з эсэ Міхася Стральцова.

Барыс Пятровіч – пісьменнік, старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», пажадаў усім прысутным, каб натхненне, атрыманае на гэтым фестывалі, стала штуршком да творчасці, да напісання новых вершаў і самаразвіцця.

– Міхась Стральцоў – вялікі беларускі паэт, эсэіст, празаік, крытык, літаратурны рэдактар. Ужо гэтага дастаткова, каб назваць ягоным іменем фестываль. Але варта таксама адзначыць, што яго творчая постаць прывабная для аўтараў самых розных узростаў, маладзейшых і старэйшых. У 1960-х, калі Міхась пачынаў, яго сапраўды называлі наватарам, што, магчыма, для сённяшняй моладзі не зусім зразумела. Цікава, якімі будуць цяперашнія маладыя эксперыментатары праз 50 гадоў, як іх будуць успрымаць чытачы – традыцыяналістамі? Напэўна, Міхась Стральцоў і не падазраваў, што дзень яго нараджэння, 14 лютага, калі-небудзь будуць святкаваць як Дзень Святога Валянціна. Тады пра тое ніхто не ведаў, а сёння гэтая дата надае нашаму фэсту асаблівы шарм. Хацелася б, каб падобных мерапрыемстваў было як мага больш і розных. Як, напрыклад, свята паэзіі ў гонар Анатоля Сыса на Гомельшчыне або памяці Ніны Мацяш на Берасцейшчыне, ці фестываль Алеся Пісьмянкова на Магілёўшчыне. Але ў нас яшчэ дзясяткі слынных імёнаў, пра якія варта згадваць і ў гонар якіх ствараць і развіваць літаратуру. Няхай імпрэзаў будзе больш, няхай у нас стане больш нагодаў збірацца разам і знаёміцца з паэзіяй – новай, маладой, якую разумеюць і падтрымліваюць і сталыя творцы, – адзначыў Барыс Пятровіч.

Алесь Разанаў паспрабаваў у сваёй прамове раскрыць загадку Міхася Стральцова, як некалі сам Міхась Лявонавіч пісаў пра «Загадку Максіма Багдановіча». Спадар Алесь агучыў і праінтэпрэтаваў стральцоўскі верш, а напрыканцы выступу прачытаў свае новыя пункціры.

– Паэзія – насамрэч вызваленне ад слоў, бо толькі тое, што не напісалася, тое, што нельга выказаць словамі, і ёсць самае істотнае. Вершы Стральцова якраз не даюць нам абмінуць самае важнае, – сказаў Алесь Разанаў.

Сваё адчуванне і разуменне творчасці Міхася Стральцова выказалі ў сваіх выступах Адам Глобус, Галіна Дубянецкая. З канцэптуальным эсэ выступіў Ігар Бабкоў, чытаў вершы эстонскі паэт Ігар Коцюх – спецыяльны госць Фестывалю. Уладзімір Арлоў падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з Міхасём Стральцовым, які стаў грамадскім рэдактарам яго першай кнігі.

Нечаканым і кранальным стала выступленне Галіны Сямёнаўны Стральцовай, першай жонкі паэта.

Урачыстую частку завяршыла музыка Андруся Такінданга і гурта «Рэха».

### *Слэм Святога Валянціна і непераможны Віктар Жыбуль*

Самае цікавае пачалося тады, калі Андрэй Хадановіч абвесціў пачатак паэтычнага слэму: колькасць наведнікаў бліжэй да спаборніцтва значна павялічылася. Пяць сябраў журы, якія выстаўляі адзнакі ад 1 да 5, па правілах слэму, былі абраныя адвольна, са звычайных гледачоў.

У слэме ўзялі ўдзел 19 паэтаў, сярод якіх былі не толькі беларусы, але і замежныя госці: Ігар Коцюх і Андра Тээдэ (Эстонія), Сяргей Бірукоў (Расія/Нямеччына), Інга-Ліна Ліндквіст (Швецыя), Аня Кампман (Нямеччына; з перакладчыцай Марыяй Мартысевіч). Хаця дасціпны вядоўца слэму Андрэй Хадановіч прасіў у залы высокіх адзнак для ўсіх канкурсантаў, перамогу здабыў наш Віктар Жыбуль – улюбёнец публікі, які займаў першае месца ва ўсіх беларускіх слэмах, і гэты паэтычны турнір не стаў выключэннем.

– Калі бярэ ўдзел Віктар, астатнім тут няма чаго рабіць, – жартавалі між сабой дзяўчаты, што сядзелі на першых шэрагах.

Спаборніцтва праводзілася ў два туры, у другі прайшлі толькі чацвёра. Інтрыга захоўвалася да апошняга моманту, а сакратары слэму, Павал Анціпаў і Віка Трэнас, пільна падлічвалі балы, выстаўленыя слухачамі.

Сярод дзевятнаццаці канкурсантаў былі і Віталь Рыжкоў, і Андрэй Адамовіч, і Алесь Плотка, і Павал Свярдлоў – усе самыя модныя, моцныя і эксцэнтрычныя паэты. Кожны эпатаваў як мог – хто філасофскім словам (Віталь, Алесь), хто нецэнзурным (Андрэй), а хто не толькі словам, але і справай (Павал Свярдлоў паўтарыў свой любімы нумар з распрананнем і кіданнем паліто ў залу).

Беларускі дзявочы слэмерскі «дэсант» быў прадстаўлены Юляй Цімафеевай (якая выступіла мацней за ўсіх іншых паэтак), Вольгай Гронскай, Кацярынай Зыкавай.

У фінал, акрамя Віктара Жыбуля, трапілі Сярж Мядзведзеў, Сяргей Прылуцкі і Дзмітрый Строцаў.

Сярж Мядзведзеў чараваў гледачоў, і асабліва глядачак, сонечнай, настраёва пазітыўнай лірыкай. Сяргей Прылуцкі, берасцейска-кіеўскі, ці беларуска-ўкраінскі паэт, і ў першым, і ў другім туры выступіў ад імя героя – маленькага хлопчыка, які, здаецца, разважае камічнай мовай пра сур'ёзныя рэчы. Выступленне Дзмітрыя Строцава, прызнанага майстра галасавой паэзіі, нікога не магло пакінуць абыякавым.

Пачэснае трэцяе месца атрымаў Сяргей Прылуцкі, другое падзялілі між сабой Сярж Мядзведзеў і Дзмітры Строцаў, а першым стаў непераможны Віктар.

Слэмеры атрымалі прызы ад кампаніі «Будзьма беларусамі!», а гледачы – сапраўднае задавальненне ад яркага паэтычнага шоў.

**Прэсавая служба СБП**
**Фота АУ**




**Грыцкевіч Анатоль. Выбранае. Уклад. і камент. аўтара, прадм. А. Мальдзіса. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 608 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 2. Гісторыка-літаратурныя помнікі).**

Аднатомнік «Выбранае» выдатнага беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара, сапраўднага члена міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі Анатоля Грыцкевіча (нар. 1929) адкрываецца вялікім даследаваннем ці не самых драматычных падзей у гісторыі Беларусі 1917–1921 гадоў «Барацьба за Беларусь». У раздзеле «Старонкі гісторыі» расказваецца пра самыя важныя гістарычныя падзеі розных часоў у Беларусі. Шэсцьдзесят трэці том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Чыгрын Сяргей. Сярод сваіх людзей: літаратурна-краязнаўчыя артыкулы, гутаркі, перапіска. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 236 с.**

Кнігу Сяргея Чыгрына «Сярод сваіх людзей» склалі літаратурна-краязнаўчыя артыкулы пра родныя беларускія мясціны, людзей, помнікі і кнігі. Некаторыя артыкулы публікаваліся ў беларускіх газетах і часопісах, а таксама ў тыднёвіку «Ніва» ў Беластоку. У выданне таксама ўвайшлі інтэрв'ю з цікавымі і творчымі людзьмі, перапіска аўтара з Лявонам Луцкевічам, Лявонам Шпакоўскім-Случаніным і Міколам Канашам.




**Чыгрын Сяргей. Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны: артыкулы, гутаркі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 148 с.**

Кніга прысвечаная Зэльвеншчыне, яе людзям, помнікам, гісторыі. Чытачы ў ёй знойдуць цікавыя звесткі пра слынных людзей зэльвенскага краю – паэтку Ларысу Геніюш, прэзідэнта БНФ Васіля Захарку, пра літаратараў Міхася Скоблу, Уладзіміра Мазго, Валянціну Ададураву, Юрку Голуба, пра майстра чарнадымленай керамікі Сяргея Худзяева. Шмат старонак у кнізе адведзена гісторыі Зэльвеншчыны, у прыватнасці Ганненскаму кірмашу, Сынковіцкай царкве і г.д.




**Плавінскі Мікалай. Узбраенне беларускіх земляў X–XII стагоддзяў. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 106 с.**

Кніга прысвечаная гісторыі ўзбраення насельніцтва беларускіх земляў у X–XIII стст. У навукова-папулярнай форме апісваюцца асноўныя катэгорыі старажытнага ўзбраення, паходжанне, час і асаблівасці выкарыстання пэўных відаў наступальнай зброі і засцерагальнага ўзбраення. Тэкст суправаджаецца шматлікімі ілюстрацыямі.




**Рышард Радзік. Вытокі сучаснай беларускасці. Беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе XIX ст. Пер. з польск. мовы Н. Дзенісюк; навук. рэд. С. Рудовіч; С. Токць. – Мінск: Медысонт, 2012. – 376 с. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

Кніга вядомага польскага сацыёлага – першае гістарычна-сацыялагічнае даследаванне вытокаў сучаснай беларускасці. Пачаткі фармавання беларускай нацыі разглядаюцца на фоне сацыяльных зменаў і ў параўнанні з падобнымі працэсамі ў суседніх народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Шмат увагі надаецца свядомасці грамадскіх эліт тагачаснай Беларусі, трансфармацыі палітычнай нацыі ў культурныя і цывілізацыйнай пераарыентацыі большасці беларусаў.




**Несцярчук Леанід. Беларусь у вайне 1812 года. Паміж Напалеонам і Аляксандрам. – Брэст: ТАА «Паліграфіка», 2012. – 320 с.**

Ілюстраванае выданне прысвечанае падзеям вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі, стратам, якія прынесла вайна Беларусі, а таксама ўслаўленню гістарычных падзей сродкамі манументальнага і выяўленчага мастацтва ў нашай краіне. Кніга будзе карыснай гісторыкам, супрацоўнікам музеяў і бібліятэк, выкладчыкам і студэнтам, краязнаўцам-даследчыкам, усім, каму дарагая матэрыяльная і духоўная спадчына Беларусі.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 11. Составление, научное редактирование А.Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2013. – 328 с.**

Матэрыялы адзінаццатага выпуска дайджэста падзеленыя на пяць тэматычных раздзелаў. Яны прысвечаныя пытанням гісторыі ВКЛ, Рэчы Паспалітай, БНР і БССР. Усяго ў выпуску 20 матэрыялаў, 143 ілюстрацыі, 9 картаў.




**Бязлепкіна Аксана. 100 слоў пра сучасную беларускую літаратуру. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 224 с.**

У кнізе ў энцыклапедычнай форме падаецца інфармацыя пра сучасную беларускую літаратуру (1987–2012) у адлюстраванні сучаснага белрускага літаратуразнаўства і крытыкі. Даведнік прызначаны для школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, усіх тых, каму неабходна зарыентавацца ў сучаснай беларускай літаратуры.




**Сямёнаў Дзмітры. Дзённік. 1943–1947. – Мінск: Медысонт, 2012. – 334 с. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд», 23).**

«Дзённік» Дзмітрыя Сямёнава з'яўляецца ўнікальным дакументам, у якім адлюстраваныя светапогляд падлетка, яго жыццё ў складаныя гады акупацыі ды бежанства ў Нямеччыне. У сістэматычных запісах 1943–1947 г. вачыма хлопца можна ўбачыць як значныя гістарычныя падзеі, так і асаблівасці штодзённасці ў ваенным Мінску, Берліне, лагерах для працоўных ды перамешчаных асобаў. Дапоўнены здымкамі з сямейнага архіва Сямёнавых аповед будзе цікавы і для прафесійных навукоўцаў, і для аматараў беларускай гісторыі. У выданні часткова захаваныя арыгінальны правапіс дзённіка як літаратурнага помніка эпохі.




**Лаўрык Ю.М. Кнігі і кнігазборы Куцеінскага манастыра ў сярэдзіне XVII ст. – Мінск: Тэхналогія, 2012. – 255 с.**

Гэта першае ў Беларусі комплекснае навуковае даследаванне ўнікальнага цэнтра кірылічнай кніжнасці. На аснове гістарычных і архіўных крыніцаў аўтар раскрывае выдавецкую і кнігазбіральніцкую дзейнасць брацтва праваслаўнага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII ст. – найбольш яркі перыяд яго гісторыі. Аўтар разглядае гісторыю стварэння Богаяўленскага манастыра ў 1623 г. і пачатак кнігадрукавання, звязанага спачатку з дзейнасцю Спірыдона Собаля, а затым у створанай пры манастыры тыпаграфіі. Усяго за перыяд з 1636 па 1654 г. тут надрукавана 11 пазіцыяў кніг у 14 выданнях на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах кірылічным шрыфтом. Апроч таго, у манаграфіі раскрываецца дзейнасць скрыпторыя манастыра і перапісаныя тут манускрыпты, аналізуюцца мастацкае афармленне і арганізацыя тэксту рукапісаў, тэхналогія вырабу пераплётаў.

Даследчыкам таксама зроблена спроба абазначыць формы існавання і склад кніжных збораў, што захоўваліся як у самім манастыры, так і ў манастырскіх цэрквах. Прааналізаваны прадметны склад куцеінскіх бібліятэк і круг чытання манахаў.




**Півавар Мікалай. Музеі Віцебска на пачатку XXI ст.: манаграфія. – Віцебск: УА «ВДУ імя П.М. Машэрава», 2012. – 180 с.**

Манаграфія прысвечана музеям Віцебска пачатку XXI ст. У першай частцы змешчаны нарыс музейнага будаўніцтва ў Віцебску з XVIII да пачатку XXI ст. У другой частцы пададзена інфармацыя пра больш за сотню музеяў, экспазіцыяў, галерэяў горада рознага ўзроўню і рознай падначаленасці. Выданне можа быць цікавым для жыхароў горада і яго гасцей, якія жадаюць больш даведацца пра гісторыю і культуру Віцебска, рэгіёна.




**Стасюк Анджэй. На шляху ў Бабадаг. Пераклад з польскай Марыі Пушкінай. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 232.**

Кніга ўяўляе сабой зборнік успамінаў і разважанняў аўтара пра падарожжы, у час якіх ён неаднаразова наведваў краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы – Славакію, Венгрыю, Славенію, Харватыю, Албанію, Украіну, Румынію, Малдову і Прыднястроўе. Аўтар згадвае людзей, звычаі, апісвае мясціны і краявіды. Асаблівую цікавасць уяўляюць развагі пісьменніка пра менталітэт і звычаі жыхароў гэтай часткі Еўропы, якую многія лічаць адсталай і прымітыўнай. Гэта кніга падарожжаў, але не толькі ў геаграфічным плане. У ёй адбываецца падарожжа і ў духоўным сэнсе. Гэта развагі над жыццём і над трансцэндэнтальным. У 2008 годзе за гэтую кнігу аўтар атрымаў прэмію Віленіцы.




**Гімжаўскас Эдмундас. Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы. – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 216 с.**

У калектыву супрацоўнікаў аддзела гісторыі XX ст. Інстытута гісторыі Літвы ў 1990-я гг. выспела думка ініцыяваць больш поўнае даследаванне тэматыкі літоўска-беларускіх дзяржаўных дачыненняў у першай палове XX ст. Вынікам гэтай задумы стала доктарская дысертацыя па гуманітарных навуках аўтара гэтых радкоў пад назвай «Беларускі фактар у фармаванні тэрыторыі літоўскай дзяржавы: этнапалітычны, палітычны, геапалітычны аспекты (1915–1923 гг.)». Дысертацыя была абароненая ў Вільні ў 2001 г. Па сутнасці, яе можна ацаніць як спробу паглядзець на літоўска-беларускія палітычныя дачыненні праз прызму праблемы фармавання тэрыторыі сучаснай літоўскай дзяржавы. На аснове дысертацыі ў 2003 г. была выдадзеная манаграфія, якая цяпер у перакладзе на беларускую мову прапануецца беларускаму чытачу. (Гімжаўскас Эдмундас, са «Слова да беларускага чытача»).




**Плахій Сяргей. Рускі Вавілон. Дамадэрныя ідэнтычнасці ў Расіі, Украіне і Беларусі. – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 300 с.**

«Рускі Вавілон» стаў адказам аўтара на некалькі грамадска-палітычных і гістарыяграфічных выклікаў, якія паўсталі перад акадэмічнаю супольнасцю ў апошнія дзесяцігоддзі. Адным такім выклікам быў развал Савецкага Саюза і ўзнікненне на яго руінах паўтара дзясятка маладых, але фармальна незалежных дзяржаваў. Пытанне заканамернасці ці выпадковасці гэтага працэсу часта ўпіраецца ў неабходнасць вырашэння спадарожнага пытання пра вытокі нацыянальнай свядомасці нацый, якія ўзяліся за пабудову ўласных дзяржаў. (З прадмовы).

# Велічны дух Гародні




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXII. Укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 248 с.**

З'яўленне альманаха менавіта на Гарадзеншчыне стала прыемнасцю, але не тое каб нечаканасцю. Беларушчына ў шырокім сэнсе разумення гэтае з'явы, нягледзячы на дзесяцігоддзі дэнацыяналізацыі, мае ў заходнім рэгіёне натуральнае і адносна трывалае апірышча. Невыпадкова ў слыннай мінскай Кнігарні «Ў» сярод розных раздзелаў і рубрык ёсць адмысловая «Гродзенская палічка»...

Назва падаецца надзвычай удалай, бо атрымалася з аднаго боку неабходна грунтоўнай, з другога сімпатычнай і запамінальнай. Тут спалучыліся патрэбная такому выданню, як альманах, дыхтоўная традыцыйнасць з імкненнем да развіцця і пошуку. І, калі першае фармулюецца ў вобразе «замка» – цвердзі, фартэцыі, з яе магутнасцю і непахіснасцю, то другая частка выяўляецца ў яго «навасці» з адкрытасцю свежым поглядам і сучасным тэндэнцыям. У спалучэнні ж, мы атрымліваем шматузроўневасць, здольную аб'яднаць пад адной вокладкай творцаў розных стыляў і пакаленняў.

Рэдакцыя ў складзе Юркі Голуба, Сяргея Астраўца, Ігара Жука, Аляксея Пяткевіча і Сяргея Чыгрына прапануе чытачу класічную будову замкавага гмаху: паэзія, проза, пераклады і крытыка.

Раздзел паэзіі распачынае маладая гарадзенская паэтка Ганна Аўчыннікава, аўтарка кнігі «Ад зачыненай брамы». Далей ідзе нізка вершаў-прысвячэнняў, створаных у адметнай манеры вядомай паэткай Данутай Бічэль. Гэта сапраўдная галерэя партрэтаў Ларысы Геніюш, Адама Станкевіча, Кастуся Тарасава і іншых славутых беларускіх дзеячаў рознага часу.

Наогул варта адзначыць прыемную зместавую і стылёвую разнастайнасць твораў, змешчаных у паэтычным раздзеле альманаха. Тут і светлая лірыка Уладзіміра Васько, і праўдзіва-шчырыя прызнанні Анатоля Валюка, і зараджаныя пазітывам, палкія, як маніфесты, вершы Алеся Жамойціна і напоўненыя жыццёвай мудрасцю творы Яўгена Петрашэвіча, і класічныя трыялеты Алеся Старадуба, і эксперыментальныя таўтаграмы Сяргея Чыгрына.

Празаічны раздзел ачолены філасофскай гісторыяй-роздумам спадара Сяргея Астраўца «Мармур не смяецца», у якой чытач напоўніцу адчуе велічны дух Гародні і канчаткова ўпэўніцца ў асабістым знаёмстве аўтара з апошнім каралём Рэчы Паспалітае Станіславам Аўгустам Панятоўскім. Таксама ў раздзеле змешчаныя тэксты як ужо знаёмых чытачам пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі і Алы Петрушкевіч, гэтак і творчыя спробы маладога аўтара Стаса Ілліна.

У невялікім раздзеле перакладаў у большыні прадстаўленыя вершаваныя тэксты невялікага памеру. Тут суседнічаюць і творы сусветна вядомага Адама Міцкевіча, і рэчы малавядомых ці зусім невядомых аўтараў, як, да прыкладу, песні ўланаў 17-га палка Літоўскай кавалерыі. Што праўда, усе пераклады зробленыя выключна з польскай мовы, а таму відавочная неабсяжная перспектыва для далейшага пашырэння моўнага спектру.

Асобную цікавасць у аматараў і знаўцаў выклічуць апошнія раздзелы альманаха, дзе змешчаныя эсэ, крытычныя артыкулы, дзённікавыя запісы за аўтарствам Аляксея Пяткевіча, Сяргея Чыгрына.

Такім чынам, брама гасцінна расчыненая – «Новы замак» вітае чытача!

**Усевалад Сцебурака**

# «У паэзіі, як і ў музыцы, важная гармонія»

*(Пачатак на стар. 1)*

будзе «крыніцай радавога першацвету», для другога – «як прастытутка між двума заклапочанымі кліентамі». Абсалютна розныя позіркі і ўзровень метафар.

Адносна таго, што такое сапраўднасць у паэзіі, можна шмат спрачацца. Аднак добра сказаў Фазіль Іскандэр: «Сапраўдны паэт – гэта чалавек, які выхоплівае з вогнішча вугалёк, што палае, і піша ім ясным почыркам». Многія аўтары з вялікімі высілкамі прыдумляюць мудрагелістыя ментальныя канструкцыі або проста надоўга трапляюць у пастку наўмыснай правакацыйнасці, не разумеючы, што штучнасць заўсёды адчувальная. З іншага боку, хтосьці можа ствараць і празмерна эмацыянальныя, але разам з тым надзвычай банальныя радкі, якія звычайна называюцца «ружовымі саплямі». У паэзіі, як і ў музыцы, важная гармонія ментальнага і эмацыянальнага, зместу і формы. Калі гэты найважнейшы прынцып парушаецца, значыць, нешта ідзе ў няправільным кірунку.

Увогуле, мы маглі б скарыстоўваць азначэнне «Краіны паэтаў» у якасці нашага адмысловага літаратурнага брэнду. Але мноства сучасных аўтараў арыентуецца на тое, каб пісаць не вершы, а менавіта тэксты. З такім падыходам можна ў хуткім часе пачаць лічыць паэтам кожнага, хто ў стане накрэмзаць хаця б некалькі паэтычных або проста рыфмаваных радкоў у сацыяльных сетках.

**– Што Вы мяркуеце наконт разнастайных літаратурных прэмій? Ці могуць яны паспрыяць узмацненню цікавасці да беларускай літаратуры?**

– Прэміі, безумоўна, патрэбныя, хоць яны пераважна ўплываюць не на якасць, а на колькасць створанага літаратарамі. Прынцыпова сітуацыі з развіццём айчыннай літаратуры і мовы гэта не змяняе. Увогуле, калі б я мела адпаведныя рэсурсы, я б заснавала чарговую прэмію нават не для беларускіх пісьменнікаў, а для тых нешматлікіх энтузіястаў, якія сёння перакладаюць з беларускай мовы. Няхай бы гэтая прэмія ўручалася не штогадова, а, напрыклад, па высакосных гадах, але нам проста неабходна падумаць аб тым, як пазіцыянаваць беларускую літаратуру ў свеце, бо пакуль яна застаецца такой своеасаблівай «белай плямай» на мапе еўрапейскага літаратурнага абшару.

**– Творы каго з маладых паэтаў, на Вашую думку, заслугоўваюць увагі? Што параіце маладым паэтам, пачаткоўцам?**

– На жаль, я не магу засведчыць, што зараз чытаю шмат паэзіі, у маёй хатняй бібліятэцы пераважаюць навуковыя выданні. Але з цікавасцю азнаёмілася з творамі Паўла Надольскага, Антона Рудака, Ігара Канановіча, Аляксея Арцёмава, Андрэя Ясюкевіча. Параіць магу, мабыць, тое ж, што звычайна раяць студэнтам, якія паступаюць у Акадэмію мастацтваў: калі вы можаце спакойна пражыць без творчасці, значыць, не так ужо яна вам і трэба. Варта пераключыцца на іншыя заняткі. А калі пераканаными, што не можаце – тады дзейнічайце, нягледзячы ні на што.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Алесь Аркуш. Палімпсэст. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 164 с. – (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).**

Алесь Аркуш, стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў, вядомы публіцы перадусім як паэт, прапануе чытацкай аўдыторыі нарэшце буйны празаічны твор – раман «Палімпсест». Шматузроўневасць, заяўленая ў назве, цалкам раскрываецца на старонках кнігі, дзе аўтар прапануе чытачу суплёт дзённікавых запісаў, успамінаў, паасобных думак, рэальных гісторыяў і нават сноў. Як і вынікае з наймення, вызначыць адну тэму твора амаль немагчыма – у рамане закранутыя ўсе вечныя тэмы – і каханне, і сяброўства, і творчыя пакуты, і самавызначэнне чалавека. Усё гэта аб'ядноўвае цёплы лірычна-філасофскі погляд аўтара, уласцівы яму як паэту.




**Алесь Бяляцкі. Асьвечаныя Беларушчынай. – Вільня, 2012. – 464 с**.

Намаганнямі сяброў і калегаў Алеся Бяляцкага (перадусім – укладальніцы кнігі Паліны Сцепаненка) пабачыў свет зборнік яго літаратуразнаўчых эсэ і нарысаў. Гэтую кнігу Алесь Бяляцкі задумваў выдаць да свайго пяцідзесяцігоддзя, загадзя пачаўшы збіраць тэксты, аднак за год да таго, у жніўні 2011, быў арыштаваны. Адкрываюць зборнік тэксты, напісаныя за кратамі, – сем лістоў пад агульным назовам «Пра беларускую «турэмную» літаратуру» (створаныя ў бабруйскай калоніі), нарыс «Подзьвіг» Хвядоса Шынклера» (напісаны ў жодзінскай турме), нататкі пра зборнік Сержука Сыса (у Бабруйску). Літаратуразнаўчая частка кнігі змяшчае даследаванні творчасці Анатоля Сыса, Янкі Юхнаўца, Антона Луцкевіча, Францішка Аляхновіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і інш., тыпалагічна-аналітычныя агляды беларускай літаратуры розных эпох. Літаратурна-крытычную частку складаюць рэцэнзіі, што друкаваліся ў перыёдыцы, апісваюць літаратурны працэс сярэдзіны 1990-х.




**Алесь Няўвесь. Слон пад мікраскопам. – Смаленск: Універсум, 2013. – 400 с.**

Смех – найлепшы сродак супраць страху. Сатыра – найлепшы сродак супраць дыктатуры (і вонкавай, і ўнутранай). Беларуская сатыра найноўшага часу можа пахваліцца адзінкавымі прыкладамі-імёнамі. Вершаваныя фельетоны Алеся Няўвеся, якімі ён адгукаецца на «недарэчнасці і глупствы, якія адбываюцца ў нашым грамадстве», заўжды трапляюць у «дзясятачку». Яны бездакорныя па тэхніцы і падачы. Пад мікраскопам сатырыка – усе значныя падзеі, што адбыліся ў нашай трагікамічнай рэчаіснасці ў 2012 годзе.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 755 94 44

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 18
люты, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 17, 24.02.2013.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com